# CHRYŚCIJANSKAJA DUMKA

BIEŁARUSKI CASAPIS — VYCHODZIĆ TRY RAZY U MIESIAC: 1, 10 i 20.

№ 9 (193) Vilnia, 10 sakavika 1939 h. — Wilno, 10 marca 1939 r. Hod XII


# Habemus Papam!

## Papa Pius XII

U čaćvier 2 sakavika 1939 h. Kalehija Kardynałaŭ vybrała papu i ab vybarach abvieściła tradycyjnymi słavami: „HABEMUS PAPAM”. Papam vybrany kardynał Aŭhień Pačelli, jaki pryniaŭ imia słaŭnych svaich papiarednikaŭ — PIUSA XII.

Śv. Ajciec Pius XII paśla zakančeńnia vybaraŭ skazaŭ praz radyjo karotkuju pramovu, u jakoj zaklikaje ŭsie narody i ŭsich ludziej śvietu da miru, jaki pavinien apiracca na spraviadlivaści, lubovi i paradku. Svoj zaklik śv. Ajciec zakončyŭ apostalskim bahasłavienstvam dla celaha śvietu.

## Karotki žyćciapis Papy Piusa XII

Aŭhień Pačelli radziŭsia 2 sakavika 1876 h. u Rymie. Paśviačany na ksiandza 2 krasavika 1899 h. Ad 1901 h. pracuje ŭ sekrataryjacie Apostalskaj Stalicy; prafesar dyplomacyi Akademii Nobili Ecclesiastici, sakratar Kamisii koodyfikacyi kananičnaha prava, nuncyj Apostalskaj Stalicy ŭ Niamieččynie i sakrator stanu pry papie Piusu XI.

Śv. Ajciec Pius XII svabodna ŭładaje mnohimi eŭrapejskimi jazykami.

# Ab supracoŭnictvie z „Str. Ludowym“

Polskija ludoŭcy („Polskie Stronnictwo Ludowe”) pravodziać svaju palityčnuju pracu nia tolki siarod nasielnictva polskaha, ale robiać heta tak-ža i siarod biełaruskaha. Dziejecca heta ŭ Horadzienščynie, asabliva ŭ pavietach: sakolskim, biełastockim, vaŭkavyskim, słonimskim. Mnohija Biełarusy, asabliva niaśviedamyja, abo mała śviedamyja nacyjanalna, zapisvajucca ŭ hetuju partyju, jak tuju, katoraja najbližej staić da ich sialanskich intaresaŭ. Da taho-ž hetaja partyja apazycyjnaja da ŭradu, a hetkija partyi zvyčajna masam najbolš i padabajucca.

Ale nia tolki niaśviedamyja i mała śviedamyja Biełarusy ŭciahvajucca ŭ hetuju polskuju partyju. Chinucca da jaje časta tak-ža i susim śviedamyja Biełarusy, a heta zatym, što biełaruskija palityčnyja partyi siańnia nia ŭsiudy dachodziać i što prahrama polskich ludoŭcaŭ u svajej socyjalnaj asabliva častcy niamała čaho maje supolnaha i z intaresami biełaruskaha sialanstva. Mnohija adnak śviedamyja Biełarusy sialanie i viaskovyja sialanskija biełaruskija dziejačy majuć sumnivy, jak sapraŭdy adnieścisia da polskaha „Stronnictwa Ludowego” i časta zvaračvajucca da nas z zapytańniem i radaj.

Voś-ža nam zdajecca, što ŭ ciapierašnich našych varunkach niama inšaha vychadu, jak ustupać u hetuju polskuju partyju i tam baranić svaich pravoŭ. Voś-ža kali ŭvažajem za mahčymaje Biełarusam siańnia ŭstupać u polskuju palityčnuju partyju, dyk uvažajem heta mahčymym na nastupnych varunkach: 1. kab polskija ludoŭcy pryznavali biełaruski narod i jaho nacyjanalnyja, socyjalnyja i palityčnyja pravy i kab ab hetym pisali ŭ svaich polskich hazetach, 2. kab pryznalii patrebu biełaruskaj dla Biełarusaŭ škoły i kab dapamahali Biełarusam zdabyć jaje i 3. kab vydavali biełaruskuju hazetu dziela pašyrańnia jaje siarod Biełarusaŭ, siabroŭ „Stronnictwa Ludowego”.

Viedama, hetyja varunki nadta-ž maleńkija i skromnieńkija, treba było-b šmat čaho inšaha damahacca ad polskich ludoŭcaŭ, ale na pačatak chopić i hetaha, rešta pryjdzie paśla, u miеru taho, jak hetaje supracoŭnictva polskaha i biełaruskaha sialanstva budzie raźvivacca.

Pry hetym zaznačajem, što kožny śviedamy Biełarus, kali jon uvažaje za patrebnaje naležać da polskaj ludovaj partyi, moža heta rabić tolki prynamsi z hetymi varunkami, bo inakš zamiest karyści budzie tolki škoda. Zaŭsiody i ŭsiudy Biełarus pavinien zachavać svaju čałaviečuju i nacyjanalnuju hodnaść, — inakš jon budzie siabie panižać i rabić sabie škodu, a kamu inšamu karyść.



# Da spravy chryścijanskaha korporacyjanizmu

Spačatku minułaha hodu Hramadzkaja Rada (Rada Społeczna) pry Prymasie Polščy vystupiła z deklaracyjaj u spravie ziamielnaj ułasnaści. Ciapier hetaja Rada ŭznoŭ vystupaje. Hetym razam u spravie padziełu ŭłasnaściaj (uwłaszczenia) śvietu pracy. Deklaracyja heta była apublikavana ŭ pieršych dniach studnia 1939 h. Asnaŭnyja tezy hetaj deklaracyi takija:

a) Dzieła stvareńnia varunkaŭ padziełu ŭłasnaściaj najemnych pracaŭnikoŭ, treba ŭ pieršuju čarhu... ŭspamahać... arhanizavańnie samadzielnych ramieśnickich varštataŭ i raźvićcio drobnaha handlu.

b) Raźviććio drobnaha promysłu, ramiasła i handlu strymlivajecca konkurencyjaj vialikich vytvorčych padpryjemstvaŭ. Kab pabolšyć drobnuju vytvorčaść i pavialičyć jejnuju zyskoŭnaść, treba ŭ hetaj halinie raźvivać arhanizacyju kooperatyŭnuju—handlovuju i kredytovuju.—Dalej, deklaracyja staić na stanoviščy patreby zreformavańnia hramadzkich abieśpiačeńniaŭ, katoryja „pavinny iści ŭ kirunku źviazańnia hetaj instytucyi z samaŭradam sarhanizavanych fachaŭ," arhanizacyjaj korporacyjnaj, jakaja i pryniała-b na siabie funkcyi abieśpiačalniaŭ.

Treba viedać, što korporacyjanizm—teoryja nia novaja. Korporacyjny ład znali ludzi ŭžo ŭ siarednich viakoch. Tady paasobnyja fachi (kraŭcy, stalary i inš.) u ramach hramadzkich klasaŭ tvaryli samadzielnyja aŭtanomnyja sajuzy, zadačaj jakich było dahavaryvacca nia tolki ŭ spravach haspadarskich, fachovych, ale i ŭ ahulna-ludzkich. Asablivaž tahačasnyja korporacyi staralisia:

1. Kab miž ichnimi siabrami nia było „dzikoj" konkurencyi i tamu kožny varštat mieŭ prydzieleny sabie „kontynhient", bolš jakoha nia śmieŭ vyrablać tavaru na rynak;

2. Kab tavar byŭ dobraj jakaści i nie pradavaŭsia nižej ustanoŭlenaj cany;

3. Kab varštat pracavaŭ niaŭpynna;

4. Kab siabra korporacyi za svaju pracu mieŭ naležnuju zapłatu;

5. Kab planova viałosia navučańnie i fachovaje davučyvańnie;

6. Kab usie siabry korporacyi supolna brali ŭdzieł u žyćci relihijnym i samaŭradavym (u haradach).

Apošni punkt pakazvaje, što siaredniaviečny korporacyjanizm abyjmaŭ tolki miesta, na sialo jon nie dastaŭsia. Sialanie praŭna i faktyčna byli niavolnymi. Važnaj staranoj henaha „staroha" korporacyjanizmu było toje, što jak paasobnyja siabry jahonyja, tak i cełyja korporacyi u ŭzajemaadnosinach miž saboj i navat z siabrami niearhanizavanymi kiravalisia moralnymi nakazami kaścioła. Supracoŭnictva-ž z haradzkim samaŭradam raźvivała ŭ sarhanizavanych vielmi cennuju rysu miascovaha patryjatyzmu. Cennym heta było asabliva na vypadak vajennaj abarony i—treba dumać—było pačatkam śviedamaści nacyjanalnaj.

Nadychodziła adnak para rańniaha kapitalizmu, jaki nie pryznavaŭ nijakich moralnych ramak dla zysku, konkurencyi, jakaści tavaru i h. d., a hetym samym razburyvaŭ uvieś korporacyjny ład. Da hetaha pryjšło jašče addzialeńnie kupcoŭ, jak bolš ruchavaha elementu, ad ramieśnikaŭ, jakija chutčej zžyvajucca z miescam. A paśla pajšoŭ razvał dalšy: z ramieśnikam kankuravaŭ varštat, z varštatam—fabryka. Pry hetym užo tak uciorłasia, što macniejšy naciskaŭ i navat niščyŭ słabiejšaha. Hetak pamału, ale systematyčna upadaŭ ład korporacyjny, a naradžalisia karteli.

Kažuć adnak, što „historyja paŭtarajecca". Dumki korporacyjanizmu adžyli pad kaniec minułaha 19-ha stahodździa i dahetul dalej raźvivajucca. Z tych prajavaŭ, što pakazalisia dahetul, možna vyrazna adroźnić dva asobnyja typy novaha korporacyjanizmu: niamiecki i italjanski. Treci prajekt apirajecca na papieskaj encyklicy (pasłańni) „Quadragessimo anno". Probavali jaje zastasavać u Aŭstryi. Vonkavyja čyńniki pierapynili hetu probu. Uspomnienaja vyšej deklaracyja Hramadzkaj Rady pry Prymasie Polščy faktyčna apirajecca na hetaj-ža encyklicy papieskaj.

*B. B*

---

**АД. СТАНКЕВІЧ**

# ХРЫСЬЦІЯНСТВА І БЕЛАРУСКІ НАРОД [8)]

*(У 950-ыя ўгодкі Хросту Беларусі: 988/9—1938/9)*

У ст. XI—XII уся беларуская зямля была пакрыта хрысьціянскімі сьвятынямі, а так-жа і манастырамі, з якіх выходзілі сьвятыя людзі, што Беларусі пасьвячалі сябе цалком і праславіліся на ўсе вякі. З гэткіх былі прадусім: Кірыл Тураўскі, Параска, беларуская сьвятая князёўна Афрасіньня Полацкая.

Сьв. Афрасіньня, будучы сьвецкай, называлася Прадславай. Была яна праўнучкай Уладзімера сьв., унучкай полацкага князя Усеслава Брачыславіча († 1101) і дачкой малодшага з сыноў гэтага апошняга, Юрага-Сьвятаслава. Яшчэ будучы малой, яна выказвала вялікі нахіл да глыбейшага хрысьціянскага жыцьця, да сьвятасьці, да навукі. Але бацькі яе аднак ужо мяркавалі аб яе замужастве. І вось калі яна аб гэтым даведалася, тайком пакінула бацькаўскі дом і пайшла ў манастыр, дзе прабывала законьніцай яе родная цётка, жонка князя Рамана Усеславіча, і тут сталася манахіняй пад імем Афрасіньні. Прабыўшы некаторы час у гэным манастыры, яна выпрасіла ў полацкага япіскапа Ільлі, каб ён пазволіў ей жыць аднэй у цэлі, прыбудаванай пры катэдральным саборы. Замкнуўшыся ў гэтай цэлі, сьвятая наша вяла дужа суровы спосаб жыцьця, доўгія гадзіны прабываючы на малітве, а так-жа посьцячы і пасьвячаючыся розным добрым учынкам. У вольныя часіны перапісвала сьвятыя кнігі, вышывала аблачэньні, пасылаючы гэта ўсё бяднейшым беларускім цэрквам і манастырам. А калі за гэтую сваю працу выручала якія грошы, дык аддавала іх убогім. Пашырала так-жа сярод Беларусаў грамату, вучачы чытаць і пісаць беларускіх дзетак.

# Пяюць Беларусы

*Канцэрт Хору БСС пад кіраўніцтвам Р. Шырмы*

„Пяюць на Каляды, на Запускі, на Вялікдзень, на Тройцу, на Яна Купалу, у Пятроўку, на зажынках і дажынках. Пяюць на радзінах, і на хрэсьбінах, пяюць дзіця калыхаючы, і самі дзеці пяюць гуляючы; пяюць на ігрышчах і вечарынках, і на вясельлях і на хаўтурах, і ў бяседзе і ў працы і ў маскалі ідучы, і ўва ўсякай іншай прыгодзе. Так скрозь увесь год пяюць."—Гэтак кажа аб беларускіх сьпевах у „Апокрыфу" Максім Багдановіч. І сапраўды пяюць Беларусы заўсёды, ці ў долі ці нядолі. Песьня ў нашым народзе сталася часткай ягонай душы. Праз песьню вылівае народ наш сваю радасьць і боль. Песьня сталася для нас нечым дарагім, неадлучным. І гэтай неадлучнай дарагой беларускай песьні пасьвяціў сваю працу Рыгор Раманавіч Шырма. Улажыў ён у гэту працу сваю душу і свaей адданасьцю, любоўю пазнаў усе тайніцы беларускае песьні. Усе-ж свае стараньні сьціраваў да таго, каб краса беларускае песьні была яшчэ большай, каб песьня гэта ўвабралася ў найстрайнейшыя ўбёры. Дзякуючы стараньню грам. Шырмы, беларускай песьні даюць культурна-музычную апрацоўку такія слаўныя кампазытары, як: Кошыц, Гайворонськый, Грэчанінаў і шмат іншых.

* * *

3.III сёлета ў Залі Сьнядэцкіх Віленскага Унівэрсытэту адбыўся канцэрт хору Беларускага Студэнцкага Саюзу, прысьвячаны пятнаццатым угодкам працы гр. Р. Шырмы над беларускай песьняй. Перад канцэртам аб працы грам. Р. Шырмы і аб беларускай песьні прачытаў рэфэрат студ. А. Засім, а М. Танк прачытаў свой стройны верш прысьвячаны Юбіляру і беларускай песьні.

Сам канцэрт у выкананьні хору жаночага і хору мяшанага пад кіраўніцтвам Р. Шырмы быў, можна сказаць, рэпрэзэнтацыйным і дапасаваным да юбілею. Выкананьню ня толькі мы, але хіба і фаховыя крытыкі ня знайдуць закіду. Праграма прадстаўлялася проста імпонуюча. Досыць будзе толькі пералічыць самых кампазытараў, каб прадставіць сабе, як яна выглядала. І так: Кошыц, Грэчанінаў, Гайвороньскый, Галкоўскі, Уладзімерскі, Рагоўскі, Сьвешнікаў, Евец— гэта людзі, каторыя палюбілі бел. песьню і сапраўды паднялі яе на высокі мастацкі ровень.

Паводле характару найбольш было выканана песьняў валачобных, якія вельмі памастацку, з належным зразуменьнем, згармнізаваў праф. Гайворонськый. Трэба сказаць, што гэта было зроблена вельмі на часе. Бо хоць можа іх лік для некаторых быў за вялікі, за тое прыпомніў Беларусам, што і аб гэтым багацьці трэба памятаваць.

Валачобныя песьні, каторых так маем многа, якія так нядаўна масава, шырока па ўсім нашым краю сьпявалі валоўнікі (або як у іншых мясцовасьцях называюць іх галакальнікі) на Вялікдзень, пакрысе як быццам заціхаюць. Тымчасам прыгожыя валачобніцкія песьні, ды сам валачобніцкі звычай не заслугоўваюць на тое, каб аб іх забываць. Наадварот, трэба старацца, каб песьні гэтыя праз цэлыя Вялікодныя дні, вечары і ночы ня сьціхалі. І сучасная моладзь не павінна валачобніцтва стыдацца, а разьвіваць яго, як свой нацыянальны прыгожы звычай. Ужо загадзя перад Вялікадням трэба групамі моладзі вучыцца гэтых песьняў і імі вітаць усіх Беларусаў, увесь свой край у дзень вялікага сьвята Ускрашэньня Хрыстовага.

Варочаючыся да канцэрту, каторы даў магчымасьць вялікаму натоўпу людзей запоўніўшых залю перажыць прыемныя хвіліны, за што хору і ягонаму рэгенту— Юбіляру сыпаліся бурныя вопляскі, —трэба падчыркнуць і ўмелую яго арганізацыю студэнтаў. БСС фактычна за 3 дні сарганізаваў канцэрт, каторага Беларусам могуць пазайздросьціць усе іншыя віленскія хоры.

Я—к

**Baćki Biełarusy! Vučycie svaich dziaciej čytać i pisać pabiełarusku!**

Але гэта ўсё адцягвала яе ад яшчэ больш дакладнейшай службы Богу і яна шукала больш адпаведных абставінаў для сваіх намераў. І вось, атрымаўшы дазвол ад полацкага япіскапа, перасяляецца ў Сяльцо пад Полацкам, дзе была цэркаўка ў чэсьць Спаса. Гэна ўсё Сяльцо, якое было ўласнасьцяй катэдральнай царквы, япіскап падарыў Афрасіньні, каб яна там залажыла жаночы манастыр. Гэта было ў прысутнасьці бацькі яе Юрага і яе дзядзькі, тагочаснага полацга князя, Барыса. Гэты манастыр нашая сьвятая сапраўды залажыла і назвала яго Спасаўскім. Манастыр разьвіваўся памысна і павялічваўся. У гэтым манастыры хутка апынуліся сваячніцы сьв. Афрасіньні: родная яе сястра Гордзіслава (у манашастве Аўдоцьця), стрыечная сястра Зьвеніслава (у манашастве Праксэда), і яшчэ дзьве далейшыя сваячніцы з дазволу полацкага япіскапа Дзяніса († 1183), з якіх у манашастве адна называлася Агатай, а другая Аўхімя. Хутка нашая сьвятая збудавала тут на месцы старой дзеравяннай царквы мураваную ў чэсьць Спаса, якая захавалася аж да часаў бальшавіцкіх, а ці цяпер існуе — няма ведама. Паставіўшы на ногі свой жаночы манастыр, сьв. Афрасіньня недалёка збудавала другі, мужчынскі, так-жа з мураванай цэрквай у чэсьць Маці Божай.

Урэшце, калі абодва манастыры разьвіваліся памысна і нічога ім не бракавала, нашая сьвятая, пакінуўшы ім падрабязны закон, паводле якога мелі жыць манахі, сама, з сваякамі сваімі Давідам і Параскай, пайшла адведаць Ерузалім, гроб Спаса. Пабыўшы тут праз некаторы час, сьв. Афрасіньня занемагла і, прахварэўшы 24 дні, там-жа і памёрла 23.V.1173 г., дзе і была пахаваная. Цела яе там аднак асталася нядоўга. У хуткім часе Туркі заўладалі сьвятой зямлёй, дазваляючы аднак хрысьціянам свабодна адтуль выяжджаць і забіраць

# Niekalki krasak na hrob Piusa XI

**Evanelskaja siła.** Viedamy francuski piśmieńnik i filozaf Maritain pisaŭ:—Jon biazstrašna baroŭsia za praŭdu, za volnaść słova Božaha, za volnaść sumleńnia čałavieka. Heta była siła, jakaja prajaŭlałasia ŭ im z niazvyčajnym bleskam. Voś-ža siem daraŭ pachodzić z ducha Chrysta, z taho Ducha, jaki jość luboŭju Ajca i Syna. Nasuproć nialudzkich formaŭ i podłaj siły, nasuproć usiakaha hvałtu, Pius XI nios śvietu Siłu evanelskuju i dziela hetaha śviet, z pryčyny jaho śmierci, pačuŭsia siratoj („Temps Present" № 65).

**Uvieś śviet u žałobie.** Vyrazili svoj žal z pryčyny śmierci Piusa XI: žydy, pratestanty, francuskija kamunisty (u parlamencie i ŭ presie), pravasłaŭnyja, usie dziaržavy i ŭsie narody (za vyniatkam Savietaŭ).

**30 roznych nacyjanalnaściaŭ.** U Rymie isnuje Kalehija Prapahandy, u jakoj vučacca studenty—misijanary. U hetaj Kalehii znachodziacca studenty 30-ch nacyjanalnaściaŭ. Pius XI vučyŭ ich lubić svoj narod, jaho jazyk, kulturu i adnačasna naležyć da siamji ahulnaludzkaj.

**30 encyklikaŭ.** Pius XI vydaŭ za 17 hadoŭ svajho pontyfikatu 30 encyklikaŭ. Datyčać jany ŭsich najhałaŭniejšych sučasnych prablemaŭ, jak kamunizm, rasizm, sprava rabotnikaŭ, siamji, škoły i h. d.

*Što pišuć hazety?*

## „Zachodnija pavievy na ŭschodnim pahraničču", brachnia na svoj cień

*„Ilustr. Kurjer Codz."* niamała ŭžo napisaŭ chłuśni ab Biełarusach i, jak vidać, da hetaha maje vialiki nachił. Śpiarša „IKC" vinavaciŭ usich Biełarusaŭ, nia vyklučajučy ksiandzoŭ i klaštornych manachaŭ u Drui, u kamuniźmie. Ciapier ćvierdzić, što Biełarusy nacyjanalisty i ŭsie prajmajucca ŭschodnimi planami Niamieččyny. Słovam, konjunkturalnaja chłuśnia. A meta jaje jasnaja — vinavacić Biełarusaŭ. Zusim niadaŭna, bo 10.II. siol. „IKC" padaŭ, što:

„...ŭ Łatvii, asabliva ŭ Lethalii, siarod biełaruskaha nasielnictva havorać ab novaj respublicy, jakaja maje paŭstać z ziamiel adarvanych ad Łatvii i jakaja maje nazyvacca „Kryvijaj"... Havorać i pišuć, što hetaja biełaruskaja respublika była-b Pjemontam, jaki pašyryŭ-by svaje ŭpłyvy na litoŭskuju, polskuju i savieckuju respubliku i davioŭ-by da stvareńnia „vialikaj" biełaruskaj respubliki. Hetaja respublika była-b etapam niamieckaha pachodu ŭzdoŭž Bałtyku na Maskvu"...

Kali biełaruskaja presa hetuju viestku z adpaviednymi kamantarami pieradrukavała, „IKC" 24.II. źmiaščaje artykuł *„Zachodnija pavievy na ŭschodnim pahraničču"* u jakim danosić, što:

„...Vieści ab uschodnich planach uzvarušyli tyja elementy, jakija spadziajucca ad hetych planaŭ dla siabie karyści. „Chryścijanskaja Dumka" badaj u kožnym numary piša ab budučych namierach Niamieččyny na Ŭschodzie, a „Bieł. Front" starajecca paddać dumku, što metaj Niamieččyny maje być, miž inšym, stvareńnie vialikaj sajuznaj łatyska-litoŭska-biełaruskaj dziaržavy. Lehienda ab „Kryvii" mocna prypadaje da smaku damarosłym biełaruskim dziejačom".

Ciž heta nie pravakacyjnaja brachnia na svoj cień?!

**34 śviatyja.** Za časoŭ Piusa XI pryznany śviatymi 34 asoby roznaj nacyjanalnaści. Apráča hetaha cely rad kananizacyjnych pracesaŭ raspačaty, ale jašče nie zakončany.

**18 kankardataŭ.** Pius XI padpisaŭ z 18 dziaržavami 18 kankardataŭ. Pieršy kankardat z Serbijaj u 1924 h., a apośni z Juhasłavijaj u 1935 h.

## Źmienicca karta całaha śvietu

Italjanskaja hazeta „Rel. Intern." piša:

„Anhlija i Francyja pavinny pryznać śviatyja maralnyja i mataryjalnyja pravy Niamieččynie i Italii, bo jnakš dyk vajna. A vajna źmienić kartu nia tolki Eŭropy, ale i całaha śvietu, dy zrujnuje Anhliju i źniščyć Francyju".

---

свае сьвятасьці. Вось-жа і цела нашай сьвятой было з Ерузаліму перавезена ў Кіеўскую пячурскую лаўру, дзе яно нятленным праляжала аж да 1910 г. пад апекай Праваслаўнай Царквы. У 1910 г. яно было перавезена ў родны Полацак. Цела нашай сьвятой вязло праваслаўнае духавенства з Кіева да Оршы (695 вёрст) па Дняпры на параходзе, ад Оршы да Віцебска (65 вёрст) шашой, і ад Віцебска да Полацка (125 вёрст) звычайнай дарогай. Падчас падарожы на параходзе адпраўлялася набажэнства, а так-жа і на прыстанях, дзе спатыкалі сваю сьвятую масы Беларусаў. Падарож па дарозе адбывалася ў урачыстай працэсіі пры вялікім учасьці беларускіх народных масаў.

Такім чынам сьв. Афрасіньня, аднолькава ўважаная сьвятой як у праваслаўнай, так і ў каталіцкай царкве, вялікая сьвятая, апосталка і прасьвяціцелька Беларусі, вярнулася ў родны беларускі Полацак. Дзе сяньня гэта такая дарагая беларуская сьвятасьць і які яе лёс? Хто-ж. гэта згадае!..

І так Беларусь у X—XI ст. сталася хрысьціянскай. Прыйшло яно да нашага народу і з Візанцыі і з Баўгарыі ў стара-славянскай ці вярней — баўгарскай мове. Украінскі гісторык Томашівській, ацэньваючы, ведама, дадатна, сам факт Хрысьціянства ў нас і яго вялікае для нас значэньне, у некаторых абставінах яго ў нас паяўленьня бачыць і ад'ёмныя староны. Вось яны: Хрысьціянства, прыйшоўшы да нас з Усходу, утрудніла Беларусам і Украінцам нашыя зьвязкі з заходнімі дзяржавамі, і што гэтая палітычная ізаляцыя наша ад Захаду была шкоднай для нашага палітычнага разьвіцьця. Бачыць гэны гісторык ад'ёмныя староны і культурныя ў гэных абставінах хрышчэньня нашага народу: край наш, праўда, зьвязаўшыся з Візанцыяй, меў доступ да вялікай візантыйскай культуры, але гэна культура ўжо тады была

## Хто ўзарваў праваслаўную капліцу ў Маладэчне?

У 1938 г. летам была вельмі галоснай справа ўзрыву праваслаўнае капліцы ў Маладэчне. Пакульшто віноўнікі ня былі выкрытыя. Пасьля аднак, падазрэньне ськівалася на сябру „Звёнзку Млодэй Польскі" А. Влодарчыка і на каталіцкага ксяндза Завадзкага. 26.II.39 г. справу гэту разглядаў Віленскі Акружны Суд і ў сваім прысудзе гэтак, між іншым, піша: „Акружны Суд у Вільні разгледзіўшы справу Антона Влодарчыка абвінавачанага за тое, што ў ночы на 18 жніўня памог ксяндзу капэляну капітану Міхалу Завадзкаму і іншым нявыяўленым асобам узарваць пры помачы ўзрыўчывых матарыялаў праваслаўную каплічку пры вуліцы Маршала Пілсудзкага"..., а далей, „што ў ночы на 30 жніўня 1938 г. у Маладэчне памагаў кс. капэляну М. Завадзкаму ністожыць праваслаўную каплічку пры вуліцы Сенкевіча, прыносячы да гэтай каплічкі 12-цімэтровую вяроўку, пры помачы якой і цяжкога самаходу мела быць развалена гэта каплічка, чаго аднак не даканана, бо паліцыя затрымала Влодарчыка з успомненай вяроўкай, — прызнае віну абвінавачанага даказанай і пастанаўляе: А. Влодарчыка засудзіць на 1 год вастрогу"...



## Relihijnaje sektanctva

Usiudy, dzie aśvieta staić nia vysoka, tam padatny hrunt dla prapahandy relihijnaha sektanctva. Siarod biełaruskaha nasielnictva ŭ hranicach Polskaj Rečypaspalitaj sektanctva raźvivajecca tam, dzie słaboje nacyjanalnaje ŭśviedamleńnie i ahułam nižejšy rovień kultury. Najbolš raźviłosia sektanctva ŭ našym Krai na paŭdni — u hłybi biełaruskaha Paleśsia. Tut u asiarodździ biełaruskaj etnahrafičnaj masy raźvivajuć svaju dziejnaść: *baptysty*, jakija ŭvažajucca za chryścijanskich evanelistaŭ i prapaviedujuć duchovy pacyfizm— „niespraciŭleńnia złu," *metadysty*, što tłumačaŭ Evaneliju ahitujuć procił usich dohmaŭ chryścijanstva, *adventysty*, katoryja ćvierdziać, što chutka pryjdzie nanova na śviet Jezus Chrystus, i *daśledniki śv. Piśma*— hetyja raźvivajuć niejki asablivy socyjalny radykalizm. Akramia pieraličanych, prajaŭlaje svaju dziejnaść i jšče adna sekta — *muraškoŭcaŭ*. Hetu sektu stvaryŭ Ivan Muraška, sielanin z pad Biełastoku, i nazvaŭ jaje „sektaj śv. Syjonu." Ivan Muraška kaža ab sabie, što jon „prarok." Volha Kirylčycha, jakaja kinuła muža Siarhieja i žyvie ŭ raspuście z „prarokam" Muraškam, nazyvaje siabie „matkaj Syjonu." Jana ćvierdzić, što „čuje hołas Boha." Hetaja duchova chvoraja žančyna časami ŭpadaje ŭ šał ci trans i tady havoryć usialakija hłupstvy, a ciomnyja ludzi vierać, što ŭ jaje ŭstupiŭ „duch bożv."

Hetak madzieje nieaśviečanaje i zusim niaśviedamaje biełaruskaje sialanstva na Paleśsi. Jano šukaje Praŭdy, Spraviadlivaści, Śviatła ŭ svajej nieprahladnaj ciemnacie praz hetyja voś sekty, jakija znajšli tam sabie padatny hrunt i jakija sami ad Praŭdy stajać vielmi daloka. Hetyja niepatrebnyja „misyjanary" siarod Biełarusaŭ durać hałovy nieaśviečanym biełaruskim sialanam svaim prymityvizmam i biazhłuzdym „praroctvam," vydajuć pabiełarusku brašury i časapisy, a biełaruskija ksiandzy vyjaždžajuć u Ameryku, a tak-ža na katalickija misii ŭ Kitaj i Japoniju. Sumna i prykra ab hetym pisać, ale zamaŭčać hetaha nia możam z našaha abaviazku. Hetym my nie dakarajem biełaruskamu duchavienstvu, ani kamu inšamu, ale vykonvajem svoj abaviazak i ab pałažeńni infarmujem. Ad siabie zaklikajem biełaruskaje duchavienstva źviarnuć bolš uvahu na zapuščanuju biełarusku ju relihijnuju nivu.

*p.*

## REKALEKCYI

dla Biełarusaŭ katalikoŭ u Vilni adbuducca ŭ kaściele śv. Mikałaja 16, 17 i 18 sakavika. Kiravać imi budzie **a. Šnip. Pačatak** a hadz. 18 min. 30.

асуджана на павольны заняпад. Далей, гэтая культура даходзіла да нашага народу ня ў роднай, арыгінальнай форме, а ў дрэннай копіі — у стара-баўгарскай. Гэта накінула нам стара-баўгарскі літаратурны язык, які затрымаў на доўгія стагодзьдзі развой народнай беларускай мовы і гэтым меў ад'ёмны ўплыў на культурнае наша жыцьцё, спыняючы яго. Урэшце, хрысьціянізацыя Русі наступіла ў часе бадай поўнага адзінаўладзтва Уладзімера блізу над усімі ўсходня-славянскімі плямёнамі. Вось-жа адна суцэльная руская царква, разам з стара-баўгарскай мовай, стала цяпер сільным лучвом, што злучала ўсе плямёны сільней бадай, як сама дзяржаўная супольнасьць, якая дужа хутка пасьля Ўладзімера перастала быць якой-небудзь творчай сілай. За гэта ўсё ў далейшай гісторыі украінскі і беларускі народ заплацілі поўнай утратай палітычнай і нацыянальнай самастойнасьці.

Ведама, у гэтых думках украінскага гісторыка шмат ёсьць праўды. Але гэтую праўду мы бачым цяпер, калі нас дзеліць ад тых часаў аж 950 гадоў. Тады-ж ніякі чалавечы геній гэтага прадбачыць ня мог, як ня мог пастулаць насупроць геапалітычным і гістарычным умовам тагочаснага жыцьця. Гэныя недахопы, якія ў сутнасьці з Хрысьціянствам ня зьвязаны, трэба нам папраўляць сяньня.

(Літаратура: **А. Сапунов** — Историческія судьбы Полоцкой Епархіи с древнейших времен до половины XIX в. Витебск 1889; **П. Никитин** — Исторія города Смоленска, Москва 1848; **Евфросиніевскія торжества** (Виленскій Календарь на 1911 г.); **Ст. Томашівсьский** — Українська Історія І; **И. Беляев** — Исторія Полотска или Северо-Западной Руси от древнейших времен до Люблинской Уніи. Москва 1872; **Преподобная Евфросинія, княжна полоцкая.** Вильна 1910; **Е. Голубинскій** — Исторія Русской Церкви, т. I. Москва 1880.)

# BIEŁARUSKAJA CHRONIKA

**„Miesiac biełaruskaj historyi".** Za prykładam minułaha hodu „Šl. Moładzi" i sioleta zaklikaje ŭsich u m-cu sakaviku z specyjalnym naciskam zajmacca paznavańniem biełaruskaje historyi, ładziačy adpaviednyja lekcyi, hutarki, dy raspaŭsiudžvajučy litaraturu z haliny biełaruskaje historyi. Pryhožy hety zaklik zasłuhoŭvaje na jak najšyrejšaje padtrymańnie.

**Dakarmlivańnie vučniaŭ Vil. Biełaruskaj Himnazii.** Ciažka žyviecca ŭsim Biełarusam, a moładzi, što vučycca, najhorš dakučaje hoład. Sioleta heta dahledzili ŭžo školnyja ŭłady ŭ Vilni i samaŭradavyja ŭstanovy, jakija 30 hałodnych vučniaŭ Vilenskaj Biełaruskaj Himnazii praz ustanovu hramadzkaj pomačy pry Vilenskim Mahistacie stała ad 1 lutaha siol. dakarmlivajuć.

**Pamior V. Adamovič.** 21.II u Vilni pamior V. Adamovič.

**Schod Biełaruskaha Navukovaha T-va.** 12 lutaha sioleta adbyŭsia ahulny hadavy schod siabroŭ Bieł. Navukovaha Tavarystva ŭ Vilni, na jakim paśla spravazdačy Uradu i Rev. Kamisii z dziejnaści za minuły hod vybrany novyja ŭłady hetaje arhanizacyi. U ŭrad vybrany:staršynia—A. Łuckievič, skarbnik A. Trepka, sakratar M. Škialonak, siabry ŭradu: J. Stankievič, B. Hrabinski, M. Piaciukievič, zastupniki: O. Rusačanka-Radzievič, P. Siarhijevič i V. Hryškievič. Dziejnaść T-va nia hledziačy na ciažkija mataryjalnyja abstaviny była žyvaja. Miž inšym T-va pry pomačy ŭsiaho biełaruskaha hramadzianstva ŭtrymlivaje i apiakujecca Biełaruskim Muzejam im. Ivana Łuckieviča.

**Schod Biełarusaŭ katalikoŭ.** 5 h. m. u Vilni adbyŭsia schod Biełaruskaha Kaścielnaha Kamitetu, na jakim abhavarvalisia relihijnyja biełaruskija spravy, a taksama vybrana novaje kiraŭnictva Kamitetu.

**Z žyćcia Biełarusaŭ na čužynie.** *Biełarusy ŭ Francyi.* „Bieł. Front" 1.III piša, što „Biełarusy ŭ Francyi pastanavili što-hod pravodzić miesiac (ad 15.I da 15.II) bieł. zamiežnaj presy. Zadańniem hetaha miesiaca jość znajomić bieł. emihrantaŭ z bieł. presaj i pašyrańnie jaje. Užo žbirajucca adrasy bieł. emihrantaŭ u Francyi, Čechasłavaččynie, Halandyi, Belhii, Brazylii, Arhientynie, Kanadzie, na Dalokim Uschodzie i inšych krajoch. Hetak naviazvajecca suviaź miž usimi Biełarusami na emihracyi. Dziela drukavańnia i pašyrańnia bieł. presy stvorany Presavy Fond.

Pry Chaŭrusie Bieł. Rabotnikaŭ u Francyi (Paris (3). 65 Rue des Graviliers) zasnavałasia Biuro Pasiarednictva Pracy. Paŭstaŭ tak-ža prajekt załažyć Biełaruskuju Kasu Uzajemnaj Dapamohi, jakaja pamahała-b bieł. emihrantam u časie biezraboćcia.

Žbirajucca taksama składki na vydańnie novaj karty Biełarusi."

*Damahańni biełaruskich emihrantaŭ u Kanadzie.* Hazety paviedamlajuć, što biełaruskija emihranty z našaha kraju ŭ Kanadzie masava padpisvajuć damahańnie palepšańnia doli Biełaruskaha Narodu ŭ Polskim Haspadarstvie. Damahańni henyja majuć być vysłanyja polskamu ŭradu.

*Biełaruski Centr u Litvie.* Biełaruski Centr u Litvie zasnavany ŭ 1923 h. i hurtuje ciapier kala siabie ŭsich biełaruskich adradženskich i kulturnych dziejačoŭ u Litvie, a tak-ža biełaruskich studentaŭ universytetu Vitaŭta Vialikaha ŭ Koŭnie. Praca Centru ŭ apošnija časy značna ažyviłasia. U zasnavanym pry Centry narodnym universytecie kažnuju subotu i napiaredadni śviataŭ adbyvajucca lekcyi z historyi Biełaruskaha Narodu, jaho adradžeńnia, kultury, litaratury, etnahrafii, archeolohii i gieografii Biełarusi; dla studenckaj i vučnioŭskaj moładzi pracujuć kursy biełaruskaha jazyka.Paśla lekcyi čytajucca tvory małodych biełaruskich piśmieńnikaŭ, adbyvajucca repetycyi biełaruskaha teatru i choru. Universytet pry BC absłuhoŭvajecca pavažnymi lektarami, siarod jakich jość starejšyja navukovyja i hramadzkija dziejačy Litoŭcy, katoryja pryhoža ŭmiejuć havaryć pabiełarusku i padtrymlivajuć tradycyjnaje supracoŭnictva z biełaruskimi adradžencami. U najbližejšym časie B. C. maje ŭznavić bieł. vydaviectva ŭ Koŭnie, jakoje pracavała pry Centry ŭ 1923-27 h. h. i zrabiła kaštoŭny i vialiki ŭkład u bieł. litaraturu i navuku. Sioleta budzie zakončana pačataja letaś budova stałaha pamieškańnia dla Domu Biełaruskaje Kultury pry Centry.



## U Litvie

**Žjezd litoŭskich katalickich vučonych u Koŭnie.** 20—22.II sioleta ŭ Koŭnie adbyŭsia žjezd litoŭskich katalickich vučonych, a tak-ža pryjacielaŭ navuki. Učaśnikaŭ było da 600 čałaviek, siarod ich z Vilni: ks. K. Čybiras i ks. dr. A. Viskantas. Byŭ heta ŭžo treci žjezd. Pieršy mieŭ na mecie sabrać katalickich vučonych, druhi— daśledzić sučasny kryzys i šukać sposabaŭ pieramahčy jaho, a hety treci žjezd mieŭ na mecie, jak pisała hazeta „XX Amžius," „słužyć praŭdzie i arjentavacca na praŭdu." Na žjeździe byŭ cely rad referataŭ i prapazykaŭ.

**Kooperatyŭnyja tavarystvy.** Na 1.I. sioleta ŭ Litvie isnavała 1.287 roznych kooperatyŭnych tavarystvaŭ. U ich liku: najbolš tavarystvaŭ drobnaha kredytu i sialanskich kasaŭ — 346, kaaperatyvaŭ ziemlarobskich—178, małačarniaŭ—220, kružki kantroli žyvioły—223, kružki ziemlarobskich mašynaŭ — 137, tavarystvaŭ spažyvieckich — 53, kasaŭ aščadnaści— 52, i patrochu roznych inšych. Apračа hetaha isnuje 6 sajuzaŭ kooperatyvaŭ. Ahułam ruch kooperatyŭny ŭ Litvie raźvivajecca pamysna. Za minuły hod paŭstała novych kooperatyvaŭ—48.

**Melioracyja.** U minułym hodzie na melioracyju ŭrad vydaŭ 3 miljony 164 tysiačy litaŭ. Za hetyja hrošy była praviedziena praca: drenaž łuhoŭ, papraŭka asuški łuhoŭ u minułych hadoch, asuška bałot pry pomačy atkrytych ravoŭ, prajekty asuški. Drenaž założany na prastory 1.187 ha, papraŭlena 799 kilometraŭ daŭniejšych ravoŭ, vykapana novych ravoŭ 1.958 kilometraŭ i zrobleny prajekty dla budučaj melioracyi na prastory 2.327 ha.

**Žmianiŭsia źvierchni vyhlad Litvy.** Chto znaŭ Litvu daŭniej i znaje ciapier, dyk bača vialikuju roźnicu: siańnia susim inakš vyhladaje pryroda Litvy. Melioracyja, chutary, novyja lasy, padzieł dvaroŭ, novy sposab haspadarki— usio heta całkom źmianiła źvierchni vyhlad kraju.

**„Chryścijanskaja Dumka" razam z miesiačnikam „ZORKA" dla bieł. dziaciej kaštuje ŭ hod usiaho 3 zał. U składčynu jašče taniej: kali chto na àdzin supolny adras žbiareć troch padpiščykaŭ, dyk za try ekzemplary „Chr. D." płacić tak-ža 3 zał., heta značа: kožny padpiščyk z hetaj trojki atrymaje našu hazetu za 1 zał. u hod. Numar konta 63.**

UVAHA! УВАГА!

# Sakavik — miesiac tannaj biełaruskaj knižki

Dziela baraćby z niahramatnaściaj, dziela pašyreńnia aśviety ŭ biełaruskich masach, vydaviectvy i paasobnyja vydaŭcy biełaruskich knižak, supolna z biełaruskaj kniharniaj **„Pahonia,“** ładziać specyjalna tannuju pradažu biełaruskich knižak i padručnikaŭ. Z hetaj metaj vyznačajecca Sakavik — *miesiacam tannaj biełaruskaj knižki,* u praciahu katoraha pradajucca pa źnižanaj canie nastupnyja biełaruskija knižki.

## I. Dla navuki čytańnia i pisańnia pa-biełarusku

| | Cana |
|---|---|
| 1. **Першыя зернняткі** — С. Паўловіча (буквар), выд. Я. Малецкага . . | 0,25 |
| 2. **Пішы самадзейна** —С. Паўловіч (разьвіцьцё самастойнага пісьма) . . | 0,50 |
| 3. **Novy lemantar** — J. Stankievіča . . | 0,20 |
| 4. **Беларуская граматыка** — Б. Тарашкевіча . . . . . . . . . . . . | 0,50 |
| 5. **Biełaruskaja hramatyka** —B. Taraškievіča | 0,30 |
| 6. **Беларускі правапіс** — Р. Астроўскага | 0,50 |
| 7. **Родны Край ч. I** — Л. Гарэцкай . . | 0,50 |
| 8. **Родны Край ч. II** — Л. Гарэцкай . . | 0,75 |
| 9. **Родны Край ч. III і IV** — Л. Гарэцкай | 1,25 |

## II. Litaratura dla dziaciej:

| | |
|---|---|
| 1. **Kazka ab rybaku i rybcy** . . . . . | 0,20 |
| 2. **Мышанё Пік** . . . . . | 0,30 |

## III. Historyja biełaruskaj litaratury

| | |
|---|---|
| 1. **Гісторыя беларускай літаратуры** — М. Гарэцкага . . . . . . . . | 1,00 |
| 2. **Хрыстаматыя старое беларускае літаратуры** — М. Гарэцкага . . | 1,00 |
| 3. **Хрыстаматыя бел. літаратуры ад 1905 г.** — М. Дварчаніна . . . | 2,50 |
| 4. **Адбітае жыцьцё** — А. Навіны . . . | 1,00 |

## IV. Historyja ahulnaja, biełaruskaja i hieohrafija

| | |
|---|---|
| 1. **Падручнік Новай Гісторыі**—Р. Віппэра | 0,30 |
| 2. **Падручнік Навейшай Гісторыі**— „ | 0,50 |
| 3. **Кароткі Нарыс Гісторыі Беларусі**— | 0,60 |
| 4. **Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня** Ад. Станкевіча | 1,00 |
| 5. **За 25 гадоў** — А. Луцкевіча . . . . | 0,50 |
| 6. **Д-р Фр. Скарына** (гражданкай і лацінкай) — Ад. Станкевіча . . | 0,25 |
| 7. **Географія Беларусі** - А. Смоліча . . | 1,50 |

## V. Haspadarka

| | |
|---|---|
| 1. **Ziemlarobskaja čytanka** —A. Klimoviča | 0,50 |
| 2. **Leki na ździeki** — „ | 0,10 |
| 3. **Садоўніцкая чытанка** —А. Клімовіча | 0,50 |
| 4. **Пчолы** — Я. Пачопкі . . . . . . | 2,00 |
| 5. **Малочная карова** . . . . . . . | 0,40 |
| 6. **Гародніцтва** . . . . . . . . | 0,30 |
| 7. **Страшны вораг** . . . . . . . | 0,20 |

## VI. Sceničnyja tvory

| | |
|---|---|
| 1. **Боты, Мікітаў Лапаць, Пакой у наймы, Чорт і Баба** . . . . . . | 0,50 |
| 2. **Гурток** . . . . . . . . . . | 0,20 |
| 3. **У зімовы вечар** . . . . . . . | 0,40 |
| 4. **Паўлінка** . . . . . . . . . | 0,50 |
| 5. **Лекары і лекі** . . . . . . . | 0,50 |
| 6. **Раськіданае гняздо** . . . . . . | 0,50 |
| 7. **Ня розумам сьцяміў а сэрцам** . . | 0,40 |
| 8. **Апошняе спатканьне** . . . . . | 0,20 |
| 9. **Суд** . . . . . . . . . . . | 0,20 |
| 10. **Пан Міністар** . . . . . . . . | 0,40 |
| 11. **Дзядзька Якуб, Міхалка, На вёсцы Пярэстая Красуля** . . . . | 0,80 |
| 12. **Па рэвізіі, Модны шляхцюк** . . | 0,40 |
| 13. **Пашыліся ў дурні** . . . . . . | 0,40 |
| 14. **Суд над трохпалёўкай** . . . . . . | 0,20 |

## VII. Piesieńniki

| | |
|---|---|
| 1. **Дзіцячы сьпеўнік** — А. Грыневіча | 0,30 |
| 2. **Беларускі песеньнік з нотамі** — Л. Рагоўскага . . . . . . | 0,30 |
| 3. **Рэпэртуар бел. хору. Бел. народн. песьні** — Р. Шырмы . . . | 1,50 |
| 4. **Za Baćkaŭščynu**(śpieŭnik) A. Stepoviča | 0,50 |

## VIII. Mastackaja litaratura

| | |
|---|---|
| 1. **Шляхам Жыцьця** — Я. Купалы . . | 1,00 |
| 2. **Новая Зямля** — Якуба Коласа . . | 1,00 |
| 3. **Сымон Музыка** — „ . . | 0,50 |
| 4. **У Палескай глушы** — Т. Гушчы . | 1,00 |
| 5. **У Глыбі Палесься** — „ . | 1,00 |
| 6. **Вянок** — М. Багдановіча . . . . | 0,75 |
| 7. **Dudka Biełaruskaja i Smyk Biełaruski** — Fr. Bahuševiča . . . . | 0,50 |
| 8. **Maja Lira** — K. Svajaka . . . . . | 0,60 |
| 9. **Na pryźbie** — J. Byliny . . . . . | 0,30 |
| 10. **Судны дзень** — Караленкі . . | 0,40 |
| 11. **Снапок** . . | 0,30 |
| 12. **Chłapiec** — V. Advažnaha . . . | 0,50 |
| 13. **Cymbały** „ . . . | 0,50 |
| 14. **Z Rodnaha Zahonu** — A. Ziaziuli . | 0,50 |
| 16. **Мамчына Горка** — М. Машары . . | 0,25 |
| 17. **Пад Мачтай** — М. Танка . . . . | 1,50 |
| 18. **З сялянскіх ніў** — М. Васілька . . | 0,30 |

Usie vyšej pieraličanyja padručniki, knižki i śpieŭniki možna vypisać z biełaruskaj kniharni „Pahonia,“ jakaja pa atrymańni zakazu i hrošaj biezadkładna vyšle zaprošanyja knižki.

UVAHA! Pry vypisyvańni knižak na sumu da 5 zł. treba prysyłać 20 prac. na pierasyłku, a vyšej 5 zł. — apłačvaje pierasyłku kniharnia. Dziela hetaha vyhadniej vypisyvać hetyja knižki ŭskładčynu, bolšaj kolkaściaj, na bolšuju sumu i dla niekalkich asob na adzin adras. Knižki možna vypisyvać paštoŭkaj, padajučy tolki nazoŭ knižki. Zakazy možna kiravać na hetki adras: **Księgarnia „Pahonia“, Wilno, Zavalna 1.**

Przesyłka opłacona ryczałtem



*Piśmy ŭ hazetu:*

### Z-pad Baranavič

Dziŭny ciapier śviet i cikavyja ludzi... Kala Baranavič jość katalickaja parafija Dareva. Parafijanie ŭ Daravie Biełarusy, a probaršč Palak z Paznanščyny. Chrabry hety ksiondz i dobra ŭmieje jeździć na kani. Kazani ŭ kaściele, jak pryhatujecca, zaŭsiady havoryć, ale tak čysta papolsku, što parafijanie nijak zrazumieć nia mohuć. Moładź u hetaj parafii pje harełku šklankami i rasporyvaje adzin druhomu nažami žyvaty, byvajuć vypadki i złedziejstva. Hazet Daraŭskaja moładź nia čytaje nijakich i knižki ŭ ruki nie biare. Ksiandzu Paznančyku siarod Biełarusaŭ vidać nie padabajecca, bo jon adzin raz da svaich parafijanaŭ hetak adazvaŭsia: „ŭ vašu parafiju dobry ksiondz nia pojdzie, bo ŭ vas jość Biełarusy". Zrazumieła, što dušpastyrskaja praca ksiandza Palaka siarod Biełarusaŭ ciažkaja, ale hetamu vinavaty nie Biełarusy. Ad hetaha cierpiać niamała i parafijanie, nia tolki probaršč.

U druhoj parafii kala Baranavič taksama probarščam ksiondz z Paznanščyny, katoraha nijak parafijanie nia mohuć zrazumieć, bo jon havoryć čyściusieńkaj polskaj movaj. Złujecca ksiondz na parafijan, što jany jaho nia čujuć i za heta na ich narakaje. Narakajuć i parafijanie, što ksiondz kryčyć niaviedama za što. Słovam, nia mohuć parazumiecca. *Śvoj.*

### Гута Голбея, Пастаўскага пав.

У нашых ваколіцах насельніцтва беднае. Сяляне ў большасьці малазямельныя і беззямельныя. Без заработкаў і пражыць няма з чаго. Дзякуючы заработкам сяк-так жывуць людзі, але вельмі бедна. Сялянская беднята газэт і кніжак ня чытае, у польскія арганізацыі ня йдзе. Да 1937 г., як быў у в. Харкох гурток Б.І.Г.іК., дык і найбяднейшыя даставалі з гуртка газэты і кніжкі, якія чыталі і прасьвячаліся. Цяпер бедныя людзі прасьветай ня цікавяцца, а толькі заработкамі, каб пражыць. Заработкі ў гуце слабыя, а работа цяжкая. Мужчына зарабляе ад 2 зл. да 3 зл. 50 гр. у дзень, жанчына — ад 1 зл. 50 гр. да 2 зл. дзенна. Выплата адбываецца два разы ў месяц. Ня гледзячы на беднасьць, работнікі п'юць гарэлку і прапіваюць цяжка заробленыя грошы. Гэтак марнуюць грошы, час і здароўе. А дома далей галадуе жонка з дзецьмі.

Браты, кідайце піць гарэлку. Яна шкодзіць на здароўе, прыносіць разлад у сям'ю і за гэта ўсё трэба йшчэ дорага плаціць. *Мі—ка.*

## ROZNYJA VIESTKI

### Z Polšču

**Novaja hrašovaja palityka.** 13 lutaha siol. zaćvierdžany novy statut Polskaha Banku. Istotnaja źmiena hetaha statutu ŭ tym, što ŭłady Banku atrymali ciapier prava na 800.000.000, a kali spatrebicca dyk i na 1.200.000.000 zł. bolš vydać u kruhavarot papiarovych hrošaŭ, čym heta dahetul pazvalała pakryćcio zołatam vydavanych hrošaŭ.

Zapas zołata adnak u Banku nie pabolšyŭsia.

Pa pryniaćci ŭžo ŭspomnienych źmienaŭ, vyjaśniłasia, što hetyja źmieny novaha badaj ničoha nia ŭvodziać, a tolki zaćviardžajuć toj stan, jaki ŭžo isnuje faktyčna. Na konsolidacyju kredytaŭ spałučanych z haspadarčym žyćciom u Kraju (ziemlarobstva, promysieł) užo vydadziena 515 mil zł. Da hetaha treba daličyć 100—150 mil. zł. na biespracentny kredyt dla kazny i padvyžku (da 200 mil. złotych) dla samaha Banku na skup pracentnych papieraŭ na ŭłasny rachunak.

**Z Hdansku.** U Hdanskaj palitechnicy vučycca nia mała polskich studentaŭ. 12 lutaha siol. hrupa polskich studentaŭ ładziła ŭ adnym hdanskim restaranie tavaryskaje spatkańnie. Pabačyŭšy heta Niemcy i pačuŭšy polskuju movu paviesili na ŭvachodnich dźviarach kartu z napisam: „Hunden und Polen Eintritt verboten," h. zn. — „Sabakam i Palakom uvachod zabaronieny."

Zrazumieła, heta vyklikała siarod Palakoŭ vialikaje abureńnie. Polskija studenty praciŭ hetkaj źniavahi vostra i rašuča zapratestavali. Paśla hetaha niamieckija studenty siłaj vykinuli polskich studentaŭ z palitechniki. Incydent pašyryŭsia i pryniaŭ pavažny charaktar. Ułady Hdansku zapeŭnili, što ŭstanoviać paradak i hety incydent źlikvidujuć.

**Rumynski ministar u Varšavie.** U pačatku hetaha m., paśla haściny pradstaŭnika Italii min. Čiano, haściŭ u Polščy ministar zahraničnych spraŭ Rumynii. Hetyja haściny, viedama, majuć charaktar palityčny. Ale kankretnyja rezultaty dyplomatyčnych adviedzinaŭ hetych dziaržaŭnych mužoŭ pakulšto niaviedamy.

### Z zahranicy

**Kaniec vajny ŭ Hišpanii.** Hišpanskaja ŭnutranaja vajna kančajecca pieramohaj paŭstancaŭ. Vialikaja čaść respublikanskaha vojska pierajšło ŭ Francyju i tam zdało svaju zbroju, a rešta jšče trymajecca ŭ Madrycie. Hetymi dniami ŭ Madrycie staŭsia pieravarot i novyja ŭłady vystupili praciŭ kamunistaŭ. Takim čynam ciapier u Hišpanii i paŭstancy praciŭ kamunistaŭ i respublikancy praciŭ kamunistaŭ. Adnak paŭstancy hadzicca z respublikancami nia chočać i vajujuć z imi dalej.

Pry hetym treba adznačyć charakternyja adnosiny Savietaŭ da raźbitych respublikancaŭ. Ahulna viedama, što Saviety respublikancam vajavać pamahali. Ciapier, kali respublikancy stalisia raźbitymi, dyk Saviety nia chočać dać navat miejsca ŭ siabie schavacca hetym niedabitkam.

**Pamior patryjarch Miron.** 6 sakavika siol. pamior premjer rumynskaha ŭradu i patryjarch pravasłaŭnaj Carkvy ŭ Rumynii Miron.

**Padzieł Čechasłavackaj armii.** Niamieččyna damahajecca, kab Čechasłavacki ŭrad raździaliŭ svaju armiju na try asobnyja armii: českuju, sławackuju i ŭkrainskuju.

**Niamieččyna ŭkraplaje ŭschodnija hranicy.** Hazety padajuć, što Niamieččyna paśpiešna ŭkraplaje svaje ŭschodnija hranicy.

Padpiska na „Chr. Dumku": na hod—3 zał., na paŭhodu—1 zał. 50 hr., na try miesiacy—1 zał. Cana asobnaha numaru — 10 hr. Zahranicu padpiska ŭ dva razy daražej. — Adrys Redakcyi i Administracyi: Vilnia (Wilno), Zavalnaja vul. № 1—2.

Redaktor J. POŹNIAK
Рэдактар Я. ПАЗЬНЯК

Wydawca KS. AD. STANKIEWICZ
Выдавец КС. АД. СТАНКЕВІЧ

Drukarnia Białoruska im. Fr. Skaryny, Wilno, Zawalna 1. | Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1.